№7(28)
2001г.
ліпень

# ГОМАН БАРЫСАЎШЧЫНЫ

Грамадска - палітычная, асветніцкая газета

Выдаецца са жніўня 1996 г.

Кошт свабодны

Падпісвайцеся на нашу газету і набывайце яе з тэлевізійным дадаткам "ПЛЮС TV"

## Выбар шляху ёсць заўсёды. Куды пойдзеце Вы?

*Ростані на старажытнай дарозе каля Барысава.*
*Направа - шлях на Менск, які быў пракладзены ў часы Вітаўта.*
*Налева - дарога да сучасных лецішчаў.*

*Пра гісторыю развіцця шляху з Барысава на Менск чытайце на старонцы 4*

*Вы зрабілі свой выбар?*



# Траву пакуль не фарбуюць, толькі косяць

З 15 ліпеня ўсе прадпрыемствы горада далучыліся да яго добраўпарадкавання. Фарбуюцца фасады будынкаў, абкошваюцца дарогі, вывозіцца смецце.

Як нам стала вядома, прычына абудзіўшайся прагі дзеянняў у тым, што ў наш горад едзе прэзідэнт. За дзень да яго прыезду адказная камісія будзе правяраць стан тэрыторый, якія замацаваны за прадпрыемствамі. Афіцыйна ж прычынай называецца падрыхтоўка да 900-годдзя горада і жаданне заводаў перамагчы ў аглядзе – конкурсе "Мой горад – мой гонар".

Існуе таксама і "дэструктыўны" фактар у дабраўпарадкаванні. Ім з'яўляецца дзейнасць сяброў арганізацый "Зубр" і "Малады фронт", якія рэгулярна распісваюць лозунгамі толькі што адфарбаваныя фасады.

*Служба інфармацыі "ГБ"*

# На поўдзень сёлета ехаць не трэба. Ён сам прыйшоў да нас

Надзвычайнае надвор'е ўсталявалася сёлета ў ліпені. Надзвычайная спёка з амаль штодзённымі дажджамі выклікала цэлы шэраг падзей. Ад спёкі на прывакзальнай плошчы паплавіўся асфальт, у якім колы вялікагрузных машын папрадаўлівалі каляіны. Чалавечы арганізм не мацнейшы за асфальт – каля дзесяці чалавек атрымалі цеплавы ўдар, двое былі шпіталізаваны. Пачаліся прыступы хворых на сэрца. Як нам паведамілі на метэастанцыі, сярэднесутачная тэмпература ў Барысаве перавышае нармальную для гэтага пераяду на 7 – 8° Ападкаў таксама выпала значна больш нормы. Падчас найбольш моцных ліўняў выратавальнікам нават прыйшлося адпампоўваць ваду, якая затапіла дамы ў завулку Мэблевым. А ў асобныя дні з-за навальніцы прыпыняўся рух электрацягнікоў.

*Служба інфармацыі "ГБ"*

# Згарэлі яркім полымем

Два найбольш значных пажары ў ліпені выпалі на долю Зембінскага сельсавета.

Пятнаццатага ліпеня ў вёсцы Любча згарэў жылы дом з усім падвор'ем: двума гаражамі, у якіх знаходзіліся аўтамабіль ВАЗ і матацыкл "Днепр", летняя кухня і хлявы. Гаспадару гэтай маёмасці – старэнькаму дзядзьку зрабілася дрэнна з сэрцам. Пажарным прыйшлося выклікаць "хуткую дапамогу", якая дапамагла пагарэльцу справіцца са стрэсам.

А праз тры дні ў вёсцы Кімія цалкам згарэла насосная станцыя.

*Служба інфармацыі "ГБ"*

*Нагадваем, што падпісны індэкс нашай газеты*
**64184**

***Кошт індывідуальнай падпіскі без тэлевізійнага дадатку:***
на **1** месяц - **100** руб., на **3** месяцы - **300** руб.
***Кошт індывідуальнай падпіскі з тэлевізійным дадаткам:***
на **1** месяц - **346** руб., на **3** месяцы - **1038** руб.
***Кошт ведамаснай падпіскі без тэлевізійнага дадатку:***
на **1** месяц - **150** руб., на **3** месяцы - **450** руб.
***Кошт ведамаснай падпіскі з тэлевізійным дадаткам:***
на **1** месяц - **403** руб., на **3** месяцы - **1209** руб.

## *Ад нумара да нумара*

***Святы***
*1 ліпеня – ў дзень вызвалення Барысава – ветэранамі былі ўскладзены кветкі і вянкі да магілак загінуўшых воінаў.*

* * *

*Дзень моладзі адзначылі 2 ліпеня ў вёсцы Крычына.*

* * *

*Свята горада адзначылі ў Барысаве 3 ліпеня. На гарадской плошчы адбыўся мітынг, на якім барысаўцы ўпершыню ўбачылі сцяг горада.*

* * *

*Урачысты сход працаўнікоў раёна, які быў прысвечаны Дню Незалежнасці, прайшоў у старабарысаўскім ДК.*

* * *

*Паралельна з афіцыйнымі мерапрыемствамі, барысаўцы адзначылі паганскае свята Івана Купалы шматлікімі вогнішчамі ўздоўж Бярэзіны.*

* * *

*Саветам Міністраў прынята пастанова аб святкаванні 900-годдзя Барысава. Зараз аргкамітэт на працягу месяца будзе рыхтаваць план па падрыхтоўцы горада да свята.*

***Ушанаванне***
*Медаль "За Адвагу" быў уручаны ветэрану Міхаілу Станеўскаму праз 56 год пасля заканчэння вайны.*

***Мітынгі***
*У гадавіну пачатку Вялікай Айчынай на пляцоўцы перад гарадскім ДК прайшоў мітынг-рэквіем.*

***Семінары***
*У першыя дні ліпеня адбыўся семінар кіраўнікоў і галоўных ветэрынараў барысаўскага раёна.*

***Паседжанні***
*Напрыканцы чэрвеня ў кафэ "Дарожнае" прайшло паседжанне "Клуба даярак-чатырохтысячніц".*

***Праверкі***
*Упраўленне коштаўтварэння Мінаблвыканкама правяло праверку прадпрыемстваў у Барысаве на кошт выяўлення завышаных цэн на прадукцыю. На 17 з 19 праверанных прадпрыемстваў былі накладзены штрафы.*

***Запазычанасць***
*На першае ліпеня прадпрыемствы горада затрымалі выплату 25 600 000 рублёў сваім працаўнікам, што склала 21,3% ад агульнай запазычанасці па вобласці.*

***Акцыі***
*Моладзевае аб'яднанне "Next Stop – New Life" распачало творчы караван па гарадах Беларусі. Барысаў стаў першым на шляху каравана сярод 25 гарадоў.*

* * *

*Сябры арганізацыі "Зубр" правялі 2 ліпеня акцыю "Стоп, фашызм!".*

* * *

*Дзень польскай культуры прайшоў 5 ліпеня ў СШ № 20.*

***Пачатак***
*У ваенным гарадку Печы адчынілася школа прапаршчыкаў.*

***Суды***
*Суд над актывістам арганізацыі "Зубр" меў месца ў Барысаве 5 ліпеня. Хлопца абвінавацілі ў арганізацыі несанкцыянаванага пікету.*

***Прызыў***
*Чарговы набор ў войска распачаўся 4 ліпеня. Усяго плануецца скіраваць у вайсковыя часткі 560 маладых барысаўцаў.*

***Здарэнні***
*Ананімны грамадзянін 16 ліпеня паведаміў аб міне ў будынку гарвыканкама. Працаўнікі ўстановы былі эвакуіраваны, званок аказаўся хлуслівым.*

* * *

*Двое барысаўцаў загінулі ад ўдара маланкі ў адну са шматлікіх ліпеньскіх навальніц.*

***Канцэрты***
*На пачатку ліпеня ў Бырсаве выступаў вядомы гурт "Ляпіс Трубяцкі".*

***Перамогі***
*Артысты з Барысаўскага медвучылішча перамаглі на абласным аглядзе-конкурсе мастацкай самадзейнасці.*

***Спаборніцтвы***
*На базе палігона Міністэрства па надзвычайных сітуацыях ў пасёлку Светлы Гай з 5 па 8 ліпеня прайшлі спаборніцтвы выратавальнікаў.*

* * *

*Традыцыйныя спаборніцтвы па аўтакросу прайшлі ў першыя дні ліпеня каля вёскі Вялікае Стахава.*

***Служба інфармацыі "ГБ"***



*Праспект абнаўляецца. На колькі гэтага хопіць?*

# Да 900-годдзя Барысава

З нагоды хуткага святкавання 900-годдзя заснавання Барысава прапаную:

Па-першае, сквер, што не мае імя і знаходзіцца каля кінарэатра "Перамога" ў старой частцы горада, назваць скверам імя князя Барыса, - заснавальніка места.

Па-другое, да ліпеня 2002 года ў Барысаве павінны з'явіцца такія назвы вуліц і бульвараў як князя Вітаўта, Льва Сапегі, Францыска Скарыны і нават завулак 1102 года. Усе назвы ў гонар вышэйназваных асобаў павінны быць напісаны на мове нашых продкаў – на беларускай мове.

Па-трэцяе, вакол Свята-Уваскрасенскага сабору і гандлёвых шэрагаў усе шыльды на крамах ды іншых аб'ектах мэтазгодна замяніць на беларускамоўныя. Чаму менавіта ўсе? Таму, што старажытнае месца павінна мець свой беларускі нацыянальны твар, сваю адметнасць. Гэта аксіёма. І ўсякія магчымыя пярэчанні з боку праціўнікаў, ворагаў беларушчыны трэба адразу агучваць праз сродкі масавай інфармацыі. Хай барысаўцы ведаюць, хто ёсць хто.

*А.Шустоўскі*

# Барысаў марыць трапіць у кнігу рэкордаў Гінеса?




Ці не задумваліся вы, чаму ў нашым горадзе так многа маршрутаў аўтобусаў маюць у сваім нумары літару "а"? У нас ёсць маршруты 3а, 5а, 7а, 10а, 11а і яшчэ невядома якія "а" маршруты. Прытым, нярэдка маршруты з арыгінальным нумарам і з нумарам, які ўтрымлівае літару "а" практычна не маюць паміж сабою нічога агульнага. Напрыклад маршруты 18 і 18а.

Чым выкліканы такі дзіўны падыход да нумарацыі маршрутаў? Непрыязню да лічбаў і павагай літар? Боязню пераступіць праз лічбу 20? Ці можа жаданнем быць арыгінальнымі і на гэтай падставе трапіць у кнігу рэкордаў Гінеса?

Яшчэ болей пытанняў узнікла пасля з'яўлення на вуліцах горада маршрута 2в. Чаму "в", а не "б", "д", ці, напрыклад, "я"? Можа таму, што ён з маршрутам 2 практычна не мае нічога агульнага? Ці можа гэта проста рэкламнызахад, які разлічаны на збянтэжанасць барысаўцаў пры сустрэчы з аўтобусам з такім нумарам і падсвядомую цікаўнасць да яго.

Як бачна, пытанняў , якія звязаны з нумарацыяй тутэйшых аўтобусаў, шмат. Але цешыць тое, што хоць у чымсьці мы адметныя.

*Я.Юроўскі*

# Выдавецкая ініцыятыва

Лідар вядомага барысаўскага гурта "Кайфакеды" Аляксандр Мароз рыхтуецца выдаць новы тэматычны бюлетэнь, прысвечаны музыцы. На сёняшні дзень сабраны матэрыял і зроблены макет некалькіх старонак. Зараз Аляксандр шукае адзінадумцаў, якія маглі б дапамагчы з вёрсткай і тыражыраваннем часопіса.

*Служба інфармацыі "ГБ"*

# Лапці плясці развучыліся, а абутак шыць не навучыліся

Рэзка пагоршылася якасць абутку, што прадаецца на Барысаўскіх рынках. Як нам паведамілі ў гарадскім таварыстве абароны правоў пакупнікоў "Бар'ер", 90% зваротаў у гэту установу звязана менавіта з гэтым.

Недабрасумленныя гандляры пры продажу не выдаюць аніякіх дакументаў і пры гэтым спасылаюцца на пастанову, якая іх адмяніла, або прапаноўваюць пакупніку даць пісьмовую згоду на гарантыю ў 10 – 15 дзён, што супярэчыць закону.

Вярнуць грошы, калі абутак, як у казцы пра Палялушку, пераўтворыцца з італьянскіх мадэльных барэтак ў малдаўскія пасталы, будзе цяжка.

Расходы на зварот у суд суразмерны з коштам абутку, і, нават, калі будзе прынята рашэнне на вашу карысць, грошы з прадпрымальніка вы можаце атрымаць толькі ў наступным сезоне.

*Служба інфармацыі "ГБ"*



# Еўрарамонт да юбілею

Шмат хто з барысаўцаў заўважыў, што ўніверсам у цэнтры старой часткі горада закрыты на рамонт. Пасля яго правядзення мяркуецца, што ён ў гонар 900-годдзя горада атрымае назву "Юбілейны". Аднак, як стала вядома нашай рэдакцыі, ён будзе аформлены, хутчэй за ўсё, выключна па-руску. Таму цяжка сказаць, чаго ў факце надання назвы ўніверсама і яго афармленні болей, пашаны да таго, што зрабілі нашы продкі, ці здзеку над іх справамі, каштоўнасцямі і культурнай спадчынай.

На жаль, такі моўны падыход да афармлення тутэйшых крамаў апошнім часам стаў вельмі распаўсюджаным. Так, спажывецкая кааперацыя нават у савецкія часы свае гандлёвыя кропкі афармляла выключна па-беларуску. Аднак ужо некалькі год, з прыходам новага кіраўніцтва, у іх афармленні пачала выкарыстоўвацца толькі руская мова.

*В.Стэфановіч*

# Пасажыры звярнулі ўвагу....

На першы погляд, на дробязную акалічнасць звярнулі ўвагу пасажыры - дачнікі, якім штодзень прыходзіцца дабірацца з чыгуначнага вакзала да сваіх надзелаў. Дробязь тая заключаецца ў тым, што на вакзале перасталі рабіць аб'явы на беларускай мове, а аб'яўляюць толькі па - руску.

Не стаўшы слухаць каментарый тых дачнікаў, бяруся сказаць колькі слоў на гэтую тэму сам. Вядома ж, ніякая тут не дробязь, а вынік нацыянальнага нігілізму, які ў нас стаў дзяржаўнай палітыкай. Адчуўшы настрой свайго кіраўніцтва, дыктар дазволіла сабе зрабіць палёгку, выкінуўшы як не патрэбную беларускую частку тэксту.

*М.Пучыла*

# Напярэдадні падзеі

Другога жніўня горад плануе наведаць міжнародны гурт "Свет без межаў". Творчае крэда гурта – сацыяльныя танцы. Праз пластыку рухаў хлопцы і дзяўчаты змагаюцца супраць расізму, наркотыкаў і абыякавасці.

- Мы жадаем з дапамогай гэтага канцэрта ўзняць праблему дзяцей-інвалідаў. Таму запрошанай на канцэрт аўдыторыяй стануць як дзеці інваліды, так і здаровыя падлеткі. "Свет без межаў" пакажа хворым дзецям, што і ў здаровых таксама ёсць праблемы. А здаровыя судакрануцца з інвалідамі. У горадзе шмат хто нават не ведае, што ў нас столькі інвалідаў – на вуліцы іх не ўбачыш, - кажа арганізатар канцэрта Алена Аўтушка.

Дзяржава адкупаецца ад хворых невялікімі грашовымі дапамогамі, лічаць арганізатары. Таму асноўная мэта канцэрта – маральна падтрымаць хворых дзяцей нашага горада.

*Служба інфармацыі "ГБ"*


Падчас семінара

# Серыя семінараў

Жодзінскае моладзевае аб'яднанне "Новая Касталія" распачало ў Барысаве серыю семінараў пад агульнай назвай "Твой лёс у тваіх руках".

Першы з іх адбыўся на пачатку ліпеня і быў скіраваны на паляпшэнне ўзаемадзеяння моладзі з грамадствам. Адметнай рысай гэтай інтэграцыйнай моладзевай сустрэчы стала тое, што яго ўдзельнікамі па перавазе былі маладыя людзі, дагэтуль не сутыкаўшыяся з недзяржаўнымі арганізацыямі.

Другі семінар "Інтэграцыйныя метады выкладання" адбыўся тыдзень таму. Аўдыторыя, з якой у гэты раз працавала "Касталія" - гарадскія настаўнікі і навучэнцы. Большасць удзельнікаў абодвух семінараў засталася задаволенай атрыманымі ведамі.

*Служба інфармацыі "ГБ"*





# Дзіўныя будынкі, нетыповая гісторыя

Калі вам даводзілася бываць у Старабарысаве, то вы не маглі не звярнуць увагу на два жылыя двухпавярховыя цагляныя дамы незвычайнага выгляду. Чым абумоўлены іх такі нетыповы "архітэктурны стыль"?

Да другой сусветнай вайны ў Старабарысаве знаходзіўся санаторый ЦК КПБ. Ён меў два двухпавярховых драўляных будынкі, да якіх былі прыбудаваны таксама двухпавярховыя цагляныя прыбіральні. Драўляныя часткі дамоў у адрозненне ад мураваных вайну пераважыць не здолелі. Пасля яе санаторый ЦК аднаўляць не сталі. Цагельныя ж часткі прыбіральняў вырашана было пераабсталяваць пад жылыя будынкі. Так у Старабарысаве і ўзніклі два такія вельмі спецыфічныя "творы" архітэктуры.

*А.Барэвіч*



# "Пещинки" нявуцтва

Наша газета ўжо выказвала сваё меркаванне з нагоды перадачы "Пещинки времени", што паказваецца па Барысаўскім тэлебачанні і мае мэту давядзення гледачам інфармацыі пра мінулае нашага горада. Гэта, безумоўна, неабходная перадача, якая аднак мае вельмі шмат хібаў.

Проста абураюць шматлікія гістарычныя недакладнасці, з якіх часта амаль цалкам складаецца расповяд журналісткі, што вядзе праграму. Гэта датычыцца ў прыватнасці перадачы "Пещинки времени", якая была паказана 20 ліпеня. Нямала фактычных хібаў было пры ўказанні месца, адкуль пачаў развівацца Барысаў, гісторыі ўтварэння горада на правай частцы Бярэзіны. Асноўная ўвага ў праграме надзялялася гісторыі праспекта рэвалюцыі (праспекта графа Трубяцкога), развіццю яго забудоў. Але і тут не абыйшлося без недакладнасцей.

З вялікім здзіўленнем з экрана тэлевізара давялося пачуць, што да рэвалюцыі 1917 года праспект быў забудаваны аднапавярховымі драўлянымі будынкамі, сярод якіх нічога не было вартага ўвагі. Магчыма, гэта для барысаўскага тэлебачання будзе адкрыццём, але, па – першае, нават па сённяшні час у межах праспекта захавалася дзевяць цагляных двухпавярховых будынкаў таго часу. На той жа момант мураваных будынкаў было значна болей. Па – другое, нямала драўляных будынкаў (прытым не толькі аднапавярховых) мелі свае адметнасці, якія рабілі іх цікавымі і арыгінальнымі. Пра гэта ўжо не раз пісалі барысаўскія выданні. Па – трэцяе, падчас рэканструкцыі праспекта, што адбываецца зараз, вельмі добра бачны на месцы знятага асфальтавага пакрыцця ходнікаў цагляныя падмуркі старых будынкаў. Прычым, месцамі бачна, што яны ўтваралі суцэльную забудову.

Шкода, што такія патрэбныя і актуальныя напярэдадні юбілею горада перадачы робяцца так непрафесійна і неахайна. Пасля прагляду іх нярэдка ўзнікае пытанне, можа, чым такія праграмы пра гісторыю горада, лепей іх зусім не рабіць?

*В.Стэфановіч*

# ...І лыжка дзёгцю

У гарадскім аддзеле адукацыі склалася добрая традыцыя: у канцы навучальнага года для дырэктароў школ і работнікаў аддзела адукацыі ладзяцца экскурсійныя паездкі ў запаведныя куткі нашай Радзімы. За апошнія гады былі наведаны славутая Нарач, музей народных рамёстваў Дудуткі, першая беларуская сталіца Полацак. У гэты год удзельнікі экскурсіі пабачылі Мірскі замак, славутасці Нясвіжа (Слуцкаю браму, гарадскую ратушу, касцёл Божага Цела, замак князёў Радзівілаў, парк Альба, помнік Сымону Буднаму, адмысловую сістэму азёр і сажалак...), даведаліся пра многае з нашай гісторыі, культуры. Расказы экскурсаводаў былі цікавымі, змястоўнымі.

Але мяне, як аднаго з удзельнікаў паездкі не пакідала пачуццё прыкрасці: ну як можна пра гісторыю краіны, яе культуру, помнікі, выдатных людзей гэтай зямлі гаварыць на мове суседа, а не на сваёй. Вядомае выслоўе пра лыжку дзёгцю ў бочцы мёду не перадае маштаб праблемы, бо мова (любога народа) – сама найдасканалейшы помнік, найвыдатны прадукт жыццядзейнасці ўсяго народа, менавіта мова надае ёй (культуры) спецыфіку, нацыянальную адметнасць, чым мы і цікавыя сярод народаў зямлі. Мова – наш найкаштоўны скарб. І не карыстацца ім па меншай меры неразумна. А правільней сказаць – злачынна. На гэтым можна было б ставіць кропку. Але так не хочацца заканчваць гэтыя развагі на ноце безнадзейнасці. Тым больш, што апошняя паездка па ўзгаданаму раней маршруту мела свой працяг на радзіму найвыдатнейшага сына Беларусі Якуба Коласа.

У Акінчыцах, Мікалаеўшчыне, Смольні, па дарозе Коласа, на беразе Нёмана пра жыццё і творчасць свайго славутага дзеда гаварыў супрацоўнік Коласаўскага запаведніка Юрый Міцкевіч. І як гаварыў! Яго расказ быў арганічным сплавам формы і зместу, аб неабходнасці чаго гаварылі яшчэ класікі. Глыбокі, насычаны вядомымі і невядомымі (для нас) фактамі жыццяпісу славутага песняра расказ гучаў на сакавітай роднай мове. Усе (нават тыя, хто з беларускай мовай практычна не сутыкаюцца) з непадробнай цікавасцю слухалі яго. І гэта было так натуральна.

Так што не ўсё безнадзейна. Больш таго – будучыня ў мовы ёсць. Толькі нашто нам у гэтай святой справе лыжка дзёгцю?!

*І.Белы*





*Старая магістраль Берасце - Масква ў межах Барысава (зверху)*

*Насып старажытнага шляху з Барысава на Менск (злева)*

*Сучасная аўтамагістраль Берасце - мяжа РФ у прадмесці Барысава (знізу)*

# Шлях на Менск: ад Вітаўта да сучаснасці

*Калі ехаць з Барысава на Менск па старой магістралі, то пасля павароту на Печы і дарожнага знака "Барысаў" у лесе з левага боку ад дарогі можна назіраць рэшткі старога шляху. Добра захаваўся насып, праследжваюцца равы паабапал дарогі. Усяго 55 год таму тут яшчэ праходзіў асноўны шлях з Барысава на Менск.*

Утвораны ён быў яшчэ напрыканцы XIV – пачатку XV стагоддзя пры вялікім князі Вітаўце, ці, нават, пры Альгердзе. Успаміны вандраўнікоў XVI –XVIII стогоддзяў і карты XIX – пачатку XX стагоддзяў сведчаць аб тым, што тая сярэднявечная дарога амаль да сярэдзіны мінулага стагоддзя не мяняла свой шлях.

Вандраўнікі, што рушылі па гэтай дарозе ў XVI –XVIII стагоддзях адзначалі пяскі на яе ўчастку паміж Барысавам і Жодзіна, якія значна замаруджвалі шлях. На пачатку свайго існавання яна была вельмі небяспечнай з-за рабаўнікоў, што хаваліся ў тутэйшых бязмежных лясах і не раз турбавалі свaімі нападамі тых, хто адважваўся ехаць або ісці гэтай дарогай. Па гэтай прычыне яшчэ ў XV - XVIII стагоддзях шмат хто з Барысава на Менск дабіраўся далёкай старой, але больш спакойнай дарогай, якая ішла з нашага горада праз Зембін, Лагойск і Заслаўе.

Па прамой дарозе з Менска на Барысаў і наадварот не раз праходзілі вялікія войскі розных еўрапейскіх дзяржаў, праязджалі манархі і знакамітыя людзі.

У другой палове 30-х гадоў XX стагоддзя замест старой віхлявай дарогі быў зроблены больш шырокі прамы шлях. Пры яго будаўніцтве шырока выкарыстоўвалася праца зняволеных. Стары шлях часткова трапіў пад новы, часткова апынуўся ў баку. Асобныя фрагменты былога шляху сталі зарастаць і ўжо даўно не выкарыстоўваюцца, асобныя ж выкарыстоўваюцца па сённяшні час.

У 80-х гадах XX стагоддзя была зроблена яшчэ адна магістраль з захаду на ўсход, якая прайшла па-за межамі Барысава. Час ідзе. Дарогі, як і людзі, нараджаюцца, перажываюць свой росквіт і паміраюць...

**М.Мацельскі**




# Падведзены вынікі

Падведзены вынікі працы ўстаноў гарадскога аддзела адукацыі за 2000-2001 навучальны год у многіх сферах дзейнасці.

Радуюць вынікі навукова - даследчай дзейнасці вучняў і педагогаў школ горада. У III гарадской навукова - даследчай канферэнцыі 108 школьнікаў абаранілі 90 творчых прац. Было прадстаўлена 13 вучэбных прадметаў. Па выніках канферэнцыі ўзнагароджана 108 удзельнікаў. Найбольшая колькасць удзельнікаў была ад політэхнічнага ліцэя, гімназіі № 2, гімназіі № 1, гімназіі № 3, СШ № 16.

Прынята рашэнне аб заахвочванні педагогаў за актыўны ўдзел у гарадской выставе мастацкай творчасці, прысвечанай 900-годдзю Барысава. На выставу, якая праходзіла на базе цэнтральнай бібліятэкі, было парадзена звыш 100 прац і 200 экспанатаў. Актыўны ўдзел прынялі СШМ № 2, 20,7, 24, гімназіі № 1, 3, СШ № 16, 1, 13, 23, 11.

Напісаны загад па аддзелу адукацыі аб выкананні праграмы дапрызыўнай падрыхтоўкі і вайсковага выхавання вучняў школ горада. Адзначана, што на працягу года былі праведзены спартакіяда моладзі па комплексу "Абаронца Айчыны", ваенна-спартыўная гульня "Арляня" ды вучэбна - палявыя зборы ў шэфскіх воінскіх частках.

Падведзены вынікі гарадской.спартакіяды і фізічнага выхавання вучняў школ горада. У гэтым годзе ўпор рабіўся на фізкультурна-аздараўленчую працу ў школах. Лепшыяна ішла ў СШ № 1, 7, 11, 16, 20, 23, 24, гімназіі № 1. Але па - ранейшаму вострымі праблемамі, якія ўплываюць на эфектыўную працу ў галіне фізічнага выхавання, былі: востры недахоп спартінвентару, наяўнасць вакансій настаўнікаў фізкультуры ды перагрузка спартзалаў.

**М.Пучыла**

# Пра лета

*Каляндарнае лета ў Паўночным паўшар'і ўключае чэрвень, ліпень, жнівень. У астраноміі гэта перыяд года паміж 22 чэрвеня і 23 верасня - "асенняе раўнадзенства", у Паўднёвым паўшар'і - паміж 22 снежня і 21 сакавіка.*

У кліматалогіі за пачатак і канец лета прымаецца пераход сярэдняй сутачнай тэмпературы праз 10°C у бок павышэння ці паніжэння. На Беларусі лета як кліматычны сезон наступае на працягу мая і ў пачатку чэрвеня: з поўдня на поўнач за 15-20 дзен. Сонечнае ззянне ўлетку найбольшае, але і пахмурных дзён па агульнай воблачнасці бывае шмат, каля 10-ці на месяц. Сонца падымаецца высока, дзень становіцца даўжэйшым за ноч у 2,5 разы, моцна праграюцца паветра, вада, паверхня глебы. У асобныя дні тэмпература паветра можа павышацца да 36-38°C; а часам у разгар лета можа нечакана наступіць рэзкае пахаладанне. Характэрнае летняе надвор'е: ціха і ясна раніцай, удзень падымаецца вецер, на небе паяўляюцца кучавыя воблакі, можа выпасці навальнічны хуткі дождж, ноччу зноў ціха і ясна. Скорасць вятроў меншая як зімой, але іншы раз здараюцца ўраганы. Максімум ападкаў - у ліпені і жніўні, іх выпадае ў 2-3 разы больш, чым зімой "280мм, Мінск, 1973г.". Зрэдку выпадае град, у асобныя гады градзіны дасягалі велічыні курынага яйка. Бываюць моцныя вятры, пылавыя буры.

Лета падзяляецца на падсезоны: 1-ы - пачатак лета, характарызуецца самым доўгім днём ў годзе. Цвіце большасць злакаў, шмат раслін і кветак. Пара цвіцення азімага жыта - найлепшы час для пачатку сенакосу. Перыяд прыплоду ў жывёл, час вылету птушанят у большасці птушак. Канец падсезона супадае з пачаткам цвіцення ліпы драбналістай. 2-гі падсезон -поўнае лета - працягваецца амаль увесь ліпень і пачатак жніўня Гэта перыяд святла і цяпла. Выспяваюць лясныя і садовыя ягады. У канцы ліпеня пачынаецца жніво азімых; у пачатку жніўня наступае васковая спеласць у ранняй ярыны. Адцвітае бульба, збіраецца ўраджай агуркоў. Змаўкаюць птушкі. Канец перыяду супадае з выспяваннем брусніц, арэхаў. 3-ці падсезон - спад лета - працягваецца другую палову жніўня. Выспявае ярына, спеюць яблыкі, грушы слівы, на агародах - памідоры. У вільготныя і цёплыя гады ў лесе шмат грыбоў. Адлятаюць у вырай птушкі, менш становіцца насякомых. Пачынаюць жаўцець лісты на дрэвах. Канец перыяда супадае з выспяваннем першых антонавак і ягад рабіны...

**М.Пучыла**

Галоўная мэта этнагістарычнага цэнтра "Явар" - адраджэнне беларускіх этнаграфічных і гістарычных традыцыяў. Адзін з напрамкаў гэтай дзейнасці - выяўленне і даследаванне архаічных помнікаў нашай мінуўшчыны: Святыя крынічкі, прыдарожныя крыжы, святыя дрэвы, гаі, камяні, узгоркі, пахавальныя курганы... Сябры "Явара" па архіўных і кніжных даных папярэдне дакладна распрацоўваюць маршруты па вясковых святынях, а потым за свой кошт наймаюць мікрааўтобус і рушаць у вандроўку. Шукаюць старажытныя помнікі, знаходзяць іх - вядомыя і ўжо забытыя, - на месцах апытваюць людзей. Пра ўсе падобныя святыні існуюць прыгожыя легенды і паданні, якія, бывае, яшчэ нікім не запісаны - жывыя, яны яшчэ больш інтрыгуюць уяўленне. Праз іх паглыбляешся ў багаты і духоўна насычаны свет продкаў, пачынаеш разумець іх архаічнае, але далёка не спрошчанае, светаўспрыманне.



*Каплічка, якая ўсталявана на месцы крыніцы каля вёскі Пупелічы (справа)*

# Вандроўка па Барысаўшчыне

*Сёлета на пачатку лета па Барысаўшчыне здзейсніла вандроўку група навукоўцаў, якіх аб'ядноўвае этнагістарычны цэнтр "Явар". У гэтым нумары нашай газеты прадстаўляе цэнтр "Явар" і дзеліцца сваімі ўражаннямі аб вандроўцы адна з яе ўдзельніц - Ірына Клімковіч.*

На гэты раз "Явару" пашанцавала не толькі з маршрутам, але і з датай паездкі. 3 чэрвеня 2001 г. мы рушылі ў вандроўку па Барысаўшчыне на вялікае хрысціянскае і дахрысціянскае свята – Тройцу (Сёмуху). Маршрут быў папярэдне распрацаваны супрацоўнікамі інстытута гісторыі НАН Беларусі Людмілай Дучыц і Эдвардам Зайкоўскім, а праваднікам для нас стаў рэдактар газеты "Гоман Барысаўшчыны" Міхась Мацельскі.

Пабывалі мы і на такой архаічнай святыні нашых продкаў, як Бабіна Гара каля вёскі Хрост, археолаг Эдвард Зайкоўскі вельмі зацікавіўся гэтым помнікам і вырашыў у будучым рабіць тут раскопкі, каб больш поўна даследаваць гэтае месца, высветліць нарэшце, што тут стаяла раней: капішча ці хрысціянская пабудова? Былі мы і на Святым возеры каля вёскі Дубяні. Мясцовыя людзі і дагэтуль шануюць вялікі камень, што знаходзіцца недалёка ад вёскі ў лесе. Пра гэты комплекс існуе вельмі прыгожае, амаль біблейскае паданне, якое пераказалі нам мясцовыя жыхары – Васіль і Хвёдар Дубяні. А каля вёскі Пупелічы (Крынічкі) ёсць каменны крыж. Ён знаходзіцца пасярэдзіне ўзаранага поля. Яго настолькі шануюць і паважаюць, што не адважваюцца нават чапаць (наконт чапаць тут таксама існуе вельмі цікавае ўжо сучаснае паданне). Каля гэтай жа вёскі ў лесе знаходзіцца Святая крынічка. У тым, што яна дагэтуль не забытая людзьмі, мы неўзабаве пераканаліся, як толькі вырашылі каля яе адпачыць, папалуднаваць - адсвяткаваць гэты дзень. Да крынічкі прыехалі на двух падводах мясцовыя людзі. Яны размясціліся за самаробнымі сталамі і лаўкамі, пастаўленымі, відаць, спецыяльна для падобных святаў. Трымаліся яны ад нас на адлегласці і з насцярогай. Было відаць, што мы ім перашкаджаем рабіць звыклыя рытуальныя дзеянні. Мы пашкадавалі, што ў нас няма "скрытай" камеры.

З намі ў вандроўцы былі таксама Раковіч Усяслаў і Гайдукевіч Алег. Яны працуюць у інстытуце экалогіі, даследуюць азёры і балоты Беларусі. Святое возера і гэтая крынічка з'явіліся для іх пэўным адкрыццём... Нечакана знайшліся і агульныя погляды на прыроду: для аматараў дахрысціянскіх вераванняў і для сённяшніх эколагаў. Нашы продкі жылі ў суладдзі з прыродай, ніколі не супрацьпастаўлялі ёй чалавека, тое ж прапагандуюць цяпер Усяслаў Раковіч і Алег Гайдукевіч.

Шмат чаго новага, нечаканага даведаліся мы і пра гісторыю самога Барысава, яго старой часткі – Старабарысава, пра яго таямніцы, як гэты горад быў заснаваны, пра яго росквіт і заняпад. У прыватнасці, я ўпершыню пачула, што менавіта тут быў узведзены пышны і шыкоўны па сваім інтэр'еры палац Радзівілаў (канец XVIII ст.).

Другое, што мяне ўразіла – гэта так званы "Напалеонаўскі" домік. Папершае, у ім спыняўся славуты імператар Францыі Напалеон Банапарт, па-другое, у часы другой сусветнай вайны у ім жа спыняўся рэйх-канцлер Германіі Адольф Гітлер. Згадзіцеся, людзі яны не простыя і шмат што зрабілі, а дакладней - нарабілі ў сусветнай гісторыі. І як вы думаеце, у якім стане знаходзіцца цяпер гэты знакаміты "домік"? Як і ўвесь маёнтак, домік амаль знішчаны. Ад яго засталіся адно толькі сутарэнні, якія паспяхова і катастрафічна хутка ператвараюцца ў сметнік! Смешна? Горка і сумна? Усё разам!

У любой іншай краіне ў такія домікі прыводзяць цікаўных турыстаў, тыя пакідаюць у горадзе свае грошы. Каб так у нас! Стала б яшчэ адной нагодай больш згадваць пра Беларусь у кантэксце сусветнай гісторыі. Але гэтага няма! Чаму?

**І.Клімковіч**



*Культавы камень каля вёскі Дубяні (зверху). Пра паданне, якое тлумачыць яго з'яўленне, наша газета пісала ў № 3-4 (7-8)*



*Крынічка з гаючай вадой каля Барысава (справа)*



*Крыж каля крынічкі, што знаходзіцца каля Пупеліч (злева) Зараз, як і стагоддзі таму, сюды на святы з'язджаюцца на падводах тамтэйшыя жыхары*

# БАРЫСАЎШЧЫНА АД НАЙСТАРАЖЫТНЫХ ЧАСОЎ ДА СУЧАСНАСЦІ

*(Працяг, пачатак у № 1-16, 18 - 20, 22 - 27 за 1996 - 2001 гг.)*

Некалькі гадзін 13 лістапада Напалеон правёў у Барысаве, а бліжэй да вечара накіраваўся да Студзёнкі. У той жа дзень Чычагоў з асноўнай часткай свайго войска рушыў на поўдзень ад Барысава – у Забашавічы. На перадмостных умацаваннях застаўся толькі корпус Ланжэрона з 4000 – 5000 вайскоўцаў. Генералу Чапліцу было загадана ісці са сваімі жаўнерамі з раёна Брылёў у Барысаў. Перад світаннем 14 лістапада ён рушыў у бок Барысава. Ад Зембіна да Стахава на правым беразе Бярэзіны застаўся толькі атрад Карнілава, які меў адзін егерскі полк, два казацкіх палкі і чатыры гарматы.

Ноч з 13 па 14 лістапада Напалеон правёў у маёнтку ў Старабарысаве, а раніцай 14 рушыў на Студзёнку. На яе супрацьлеглым беразе ў Брылях заставаліся толькі войскі Карнілава. Але рэальны расклад сіл рускага войска Напалеон не ведаў.

Надвор'е не спрыяла французам. Адліга, якая была напярэдадні, значна разліла Бярэзіну, па якой ужо плылі крыгі. Для наладжвання пераправы Напалеон на ўзвышшы каля Студзёнкі ўстанавіў батарэю ў 40 гармат. Яна не дала магчымасці выкарыстаць Карнілаву нават тыя чатыры гарматы, што меліся ў яго.

Бярэзіну фарсіравалі ўплаў брыгада Кабрына і частка пяхоты. Яшчэ 400 жаўнераў Дамброўскага фарсіравалі Бярэзіну на плытах. Атрад П.Карнілава, які быў не ў стане аказваць супраціўленне, адступіў у лес на два кіламетры на поўдзень ад Брылёў.

Яшчэ 12 лістапада Карнілаў пасылаў Чычагову данясенне аб скапленні французаў каля Студзёнкі, а 13-га – аб іх падрыхтоўцы да пераправы праз Бярэзіну. Аднак адказу ад Чычагова Карнілаў так і не атрымаў.

Пасля таго, як перадавыя атрады французскага войска змаглі замацавацца на правым беразе, было распачата ўзвядзенне двух мастоў праз Бярэзіну. Першы – для пяхоты, другі – для абозаў і артылерыі. Глыбіня Бярэзіны ў гэты час даходзіла каля Студзёнкі да двух метраў. Французам даводзілася ладзіць масты ў халоднай вадзе сярод ільду. Для іх пабудовы былі выкарыстаны і бярвенні хат жыхароў Студзёнкі.

Да гадзіны дня 14 лістапада першы мост быў гатовы, другі мост быў узведзены к чатыром гадзінам таго ж дня.

Тым часам на поўдні ад Барысава Чычагоў паслаў у разведку на правы бераг Бярэзіны атрад казакаў. Яны там нідзе не знайшлі французаў. Толькі ў адной з вёсак казакі сутыкнуліся з эскадронам французскіх уланаў, якія ішлі з-пад Бабруйска да Барысава і далей да пераправы. Такім чынам, Чычагоў даведаўся аб пераправе французаў у Студзёнцы толькі днём 14 лістапада, пасля чаго рушыў у бок Барысава.

Між тым, на дапамогу Карнілаву вярнуўся са сваімі жаўнерамі Чапліц. Акрамя таго, з Барысава падышлі два палкі, якія даслаў Ланжарон. У ноч з 14 на 15 лістапада да Карнілава падышоў і сам Ланжарон са сваім корпусам.

*(Працяг будзе)*

**М.Мацельскі**



*Выгляд на старой паштоўкі дома, дзе спыняўся Напалеон (злева), так званы "Напалеонаўскі" домік*



*Месца, дзе знаходзіўся "Напалеонаўскі" домік (знізу). На здымку бачна невялікае ўзвышша - парошшы падмурак будынка*

# Яго цанілі і паважалі

*Ці шмат хто можа распавесці штосьці пра сваіх продкаў? Хто былі яны, як жылі, чым ганарыліся? Сёння наш чытач А.Шустоўскі распавядае пра свайго прадзеда – барысаўца Сільвестра Барзакоўскага.*

Сільвестр Міхайлавіч Барзакоўскі (1852 – 1916) працаваў служачым у банку – займаў адказную пасаду казначэя. Быў праваслаўным. На сваім падвор'і трымаў часам да 12 коней.

Паводле даследаванняў навуковага супрацоўніка Барысаўскага краязнаўчага музея Валерыя Рахові ча на фотакартцы С.Барзакоўскага, што была зроблена ў 1913 годзе, выразна бачны наступныя ўзнагароды (злева – направа):

1. Знак ордэна святога Станіслава II ступені;
2. Знак ордэна святога Уладзіміра IV ступені;
3. Знак ордэна святой Ганны III ступені;
4. Знак ордэна Станіслава III ступені.

Дарэчы, у той час у народзе гэтыя "знакі ордэнаў" называлі "крыжамі". Для іх вырабу выкарыстоўвалася золата 75-й пробы, суцэльнае ліццё. Вага кожнага з іх – не меней за 30 грамаў. Крыжы былі пакрыты глазур'ю.

5. Медаль (юбілейны) да 100 – годдзя вайны 1812 года (уручаўся ў 1913 годзе);
6. Знак "XL" – 40 год бездакорнай грамадзянскай выслугі.

Спадар В.Раховіч нават сцвярджае, што згодна ўсіх рэгаліяў С.Барзакоўскі, безумоўна, меў асабістае дваранства, якое ў тагачаснай Расійскай імперыі на сваякоў не распаўсюджвалася.

Па меркаванню супрацоўніка вышэйзгаданага навуковага супрацоўніка, зараз за ўсе гэтыя "крыжы", медаль і знак "XL" прыватныя калекцыянеры – фалерысты краін Захаду і ЗША маглі б выкласці каля 30 тысяч даляраў. Ды што тут казаць, калі ўсе рэгаліі майго выбітнага прадзеда даўно бясследна зніклі...

**А.Шустоўскі**



*Ціхан Іванавіч Паўлавец (1886 - 03.01.1961). Барысавец, дзед аўтара артыкула. Здымак зроблены ў сакавіку 1916 года*



*Сільвестр Міхайлавіч Барзакоўскі*

# І на Барысаўшчыне бываюць землетрасенні

*Да незвычайных з'яў на Беларусі трэба аднесці і землетрасенні, паколькі тэрыторыя нашай рэспублікі належыць да адносна спакойнай сейсмічнай зоны. Яны звязаны з мясцовымі ачагамі сейсмічнасці ці з'яўляюцца адгалоскамі моцных землетрасенняў у Карпатах.*

Да першых з іх трэба аднесці землетрасенні, якія мелі месца ў наваколлі Барысава ў снежні 1887 года (чатыры - шэсць балаў па дванаццацібальнай шкале), на тэрыторыі сучаснага Астравецкага раёна ў снежні 1909 года (пяць - шэсць балаў). Галоўная асаблівасць мясцовых землетрасенняў заключаецца ў неглыбокім знаходжанні іх ачагоў (ад 5 да 20 кіламетраў) і, такім чынам, у вельмі абмежаванай зоне распаўсюджання.

Іншы ўплыў аказваюць карпацкія землетрасенні, веды пра якія дайшлі да нас з глыбін стагоддзяў. За апошняе стагоддзе найбольш інтэнсіўныя землетрасенні, хвалі якіх дакаціліся да Беларусі, зарэгістраваны 10 лістапада 1940 года, 4 сакавіка 1977 года, 31 жніўня 1986 года і 30 траўня 1990 года. Сіла асобных іх у эпіцэнтры на тэрыторыі Румыніі (горы Вранча) дасягала дзевяць балаў. Тут, на глыбіні 100 – 150 кіламетраў знаходзіцца адзіны ва Усходняй Еўропе ачаг глыбокафокусных землетрасенняў, хваля якіх сілай не менш трох балаў, іншы раз ахопліваюць вялікія тэрыторыі, уключаючы Францыю і Італію – на захадзе, Грэцыю і Турцыю – на поўдні, Польшчу – на поўначы, Расію – на паўночным усходзе (да Ніжняга Ноўгарада), і паўднёвым усходзе (да Сочы). На тэрыторыі Беларусі інтэнсіўнасць карпацкіх землетрасенняў у асобных месцах складала ад трох да пяці балаў. Штуршкі суправаджаліся пагаршэннем самаадчування ў людзей, неспакойнымі паводзінамі хатняй жывёлы. У Менску і іншых гарадах рэспублікі на вышэйшых паверхах вялікіх будынкаў заўважалася хістанне люстраў, бразганне посуду, лёгкае трасенне мэблі і сцэнаў.

**М.Пучыла**

## Наша гацёўня

*Карповіч Насця скончыла шосты клас СШ № 24. Яна сябра школьнага літаратурнага аб'яднання "Маладзічок". Насця актыўна ўдзельнічае ў грамадскіх справах школы, старанна вучыцца. Марыць, каб Дабро перамагала не толькі ў казачнай цудоўнай краіне, але і на ўсёй нашай зямлі. У вольны час Насця з задавальненнем малюе. Ёй вельмі падабаецца добрая зіма з пушыстым бялюткім снегам, які пераліваецца на сонцы рознымі колерамі вясёлкі. Цэніць сяброўства. Лічыць, што без сапраўдных сяброў чалавек не адчувае бы сябе ў поўнай меры шчаслівым. Усім людзям жадае шчасця, міру і згоды.*

### Дабро і Зло

У цудоўнай краіне жылі людзі. Асярод іх жылі Дабро і Зло.

Зло заўсёды старалася шкодзіць людзям: забруджвала вуліцы, рвала кветкі, кідала пад ногі шкло, крыўдзіла дзяцей. А Дабро ўсім дапамагала.

Аднойчы Дабро і Зло завялі паміж сабою спрэчку: хто ж з іх мацнейшы? Пайшлі яны ў лес сілаю мерацца.

Дабро ідзе па лесе, кветкі нюхае, птушыны спеў слухае, наваколлем любуецца, а Зло глядзіць на Дабро і злуецца. Раптам Дабро правалілася ў яму. Зло засмяялася і кажа:

- Вось і прападай тут. Я ж казала, што ў мяне больш улады і сілы.

І пайшло прэч.

Тады Дабро ўспомніла словы маці, якая вучыла, што перамагчы Зло можна толькі добрымі справамі. І сапраўды, у гэты момант на дапамогу прыйшлі людзі, якім Дабро ў свой час дапамагло.

Калі Дабро вярнулася дадому, Зла там ужо не было. Усе людзі зажылі ў міры і згодзе. Але і на прыказку не забываюцца: як гукнеш, так і адклікнецца.

*Да друку падрыхтавала*

**Л.Лапянок**

ТОМАН БАРЫСАЎШЧЫНЫ

# Забытыя гульні

Гульня моладзі "ў намеры". Гулялі ў час посту, калі не дазвалялася спяваць і танцаваць. Збіраліся ў вялікай хаце, ставілі пасярод яе ўслон. На яго ўперамежку садзіліся хлопцы і дзяўчаты. Адзін з удзельнікаў гульні хадзіў і пытаўся, ці задаволена суседка суседам. Дзяўчыне падабаўся хлопец - яна глядзела ў яго бок. Астатнія ўдзельнікі гульні крычалі: "раз, два, тры", а хлопец цалаваў дзяўчыну. Гульня працягвалася, пакуль усе не размяркоўваліся па парах...

Раней была шырока вядомая дзіцячая гульня "рэдзька" ("рэпа", "у рэдзьку", "у рэпку", "у дзеда і бабу" і інш.). Развівала акцёрскія здольнасці дзяцей. У цэнтры гульні - дзеці – "рэдзькі", якія сядзяць у радзе, трымаючы рукамі і каленямі адзін аднаго. Іншыя персанажы ("дзед", "баба", "матка", "пані") удзельнічаюць у пасадцы, доглядзе і вырыванні "рэдзькі": па чарзе "выцягваюць" дзяцей, а яны моцна трымаюцца. Звычайна "рэдзька" патрэбна "пані", якая "ўпала з печы і пабіла плечы". Апісанне гэтай гульні часта сустракаецца ў этнаграфічных зборніках 19 ст.

*Падрыхтаваў М.Пучыла*



*У спякотныя ліпеньскія дні, што выдаліся сёлета, большасць барысаўцаў знаходзіць паратунак ад перагрэву каля вады. На ўсіх рэках горада: Бярэзіна, Сха і Пліса літаральна не засталося ніводнага ціхага "неабжытога" куточка*

# Футбольны агляд

## Гайна

Каманда ўжо трэці сезон запар змагаецца за перамогу ў першынстве Менскай вобласці. Галоўную ролю, як і летась, у камандзе адыгрываюць Свядыш, Кералідзі, Вярстак, Круглік. Звяртае на сябе ўвагу з'яўленне ў камандзе Міхаіла Жарава, які паспеў згуляць раней у БАТЭ і Наваполацкім "Нафтан-Дэвоне".

Вынікі гульняў Гайны:

**Гайна – Колас (Чэрвень)**, 3:0 (Круглік, Мазан, Лампартэр);

**Бярэзінскае (Маладзечанскі раён) – Гайна**, 1:1 (Дзем'яновіч);

**Пліса (Смалявічы) – Гайна**, 2:4 (Вярстак 2 галы, Жараў, Свядыш);

**Гайна – Зоркі (Мар'іна Горка)**, 6:1 (Жараў, Круглік 2 галы, Вярстак 2 галы, Кералідзі);

**Гайна – Нёман (Стоўбцы)**, 2:1 (Круглік, Жараў);

**Аўтамабіліст (Нясвіж) – Гайна**, 3:3 (Свядыш 3 галы);

**Гайна (Дзяржынск) – Гайна (Барысаў)**, 5:1 (Свядыш).

## БАТЭ

Першы круг каманда БАТЭ завяршыла на першым месцы. Былі атрыманы важныя перамогі ў Бабруйску і Мазыры. Аднак барысаўцы прайгралі ў Салігорску, што пахіснула становішча каманды як лідэра. Відавочна, што БАТЭ ў гэтым сезоне будзе намагацца заняць самае высокае месца ў турнірнай табліцы. За пяць год з моманту заснавання клуба ўсе ўжо звыкліся да перамог нашай каманды ва ўнутраным чэмпіянаце. Зараз застаецца чакаць перамог на міжнародным узроўні.

Вынікі апошніх гульняў БАТЭ на першынстве Беларусі наступныя:

**Белшына – БАТЭ**, 2:3 (Бяганскі, Кутузаў 2 галы);

**Славія – БАТЭ**, 1:3 (Грыгораў, Канцавы 2 галы);

**БАТЭ – Нёман-Белкард**, 1:1 (Бяганскі);

**Днепр – БАТЭ**, 2:3 (Бяганскі, Лагун, Грыгораў);

**БАТЭ – Маладзечна**, 6:3 (Кутузаў 3 галы, Бяганскі 2 галы);

**Шахцёр – БАТЭ**, 1:0.

У еўрапейскіх кубках вынікі гульняў наступныя. 1999 год. Кубак кубкаў.

**БАТЭ – Лакаматыў (Масква)**, 1:7;

**Лакаматыў (Масква – БАТЭ**, 5:0.

2000 год. Кубак чэмпіонаў.

**Шырон (Гюмры) – БАТЭ**, 1:1;

**БАТЭ – Шырон (Гюмры)**, 2:1;

**Хельсенборг (Швецыя) – БАТЭ**, 0:0;

**БАТЭ – Хельсенборг (Швецыя)**, 0:3.

## Хто дзе

Апошнім часам мы надаем шмат увагі барысаўскаму футболу. У гэтым нумары хацелася б паведаміць нашым чытачам, у якіх камандах і дзе іграюць асобныя барысаўскія хлопцы.

Анатоль Будаеў чацвёрты сезон гуляе ў салігорскім "Шахцёры". Ігар Багін гуляе ў мазырскай "Славіі". Валерый Паўлавец заўважаны ў магілёўскім "Тарпеда-Кадзіна". Першы сезон у жодзінскім "Тарпеда" гуляе Аляксей Дзёмін. Каманда, якую ўзначальваў дасведчаны спецыяліст Якаў Шапіра, змагаецца за выхад у вышэйшую лігу. Верагодна, падбор гульцоў каманды дазволіць дасягнуць клубу з Жодзіна сваёй мэты.

*С.Чарнуха*

**Сёння прыводзяцца вынікі па стану за 12 тураў**

| Браманікі | Г | П/М | П | У | |
|---|---|---|---|---|---|
| Аляксандр Федаровіч | 8 | 10 | - | - | |
| Юры Жыўноў | 4 | 4 | - | - | |
| **Абаронцы** | **Г** | **З/М** | **Пс** | **П** | **У** |
| Уладзімір Нявінскі | 12 | 1 | - | 1 | - |
| Генадзь Мардас | 12 | - | 1 | 2 | - |
| Віталь Рагожкін | 11 | 1 | 6 | 2 | - |
| Дзмітры Малаш | 2 | - | - | - | - |
| Віктар Ганчарэнка | 6 | - | 1 | - | - |
| У.Панасюк | 2 | - | - | - | - |
| Сяргей Кузняцоў | 1 | - | - | - | - |
| **Паўабаронцы** | **Г** | **З/М** | **Пс** | **П** | **У** |
| Яўген Лашанкоў | 11 | - | 2 | 1 | - |
| Леанід Лагун | 12 | 4 | 4 | 1 | - |
| Аляксей Бага | 12 | 1 | - | 2 | - |
| Аляксандр Цярэнцеў | 8 | - | - | - | - |
| Сяргей Міронічык | 7 | - | - | - | - |
| Аляксандр Лісоўскі | 4 | - | 2 | 1 | - |
| **Нападнікі** | **Г** | **З/М** | **Пс** | **П** | **У** |
| Віталь Кутузаў | 12 | 12 | 7 | - | - |
| Арцём Ганчарык | 11 | 1 | 4 | - | - |
| Вячаслаў Грыгораў | 11 | 2 | 1 | - | - |
| Арцём Канцавы | 8 | 4 | - | - | - |
| Павел Бяганскі | 7 | 5 | 1 | - | - |
| Уладзімір Таран | 3 | - | - | - | - |

**Г** – гульні, **П/М** – прапушчана мячоў, **З/М** – забіта мячоў, **Пс** – пасы, **П** – папярэджанні, **У** – удаленні.

**Каляндар гульняў БАТЭ ў 11-м першанстве Беларусі (вышэйшая ліга). Другі круг**

14-ы тур, 28 ліпеня (субота): **БАТЭ – Гомель.**

15-ы тур, 4 жніўня (субота): **Дынама Бр – БАТЭ.**

16-ы тур, 18 жніўня (субота): **БАТЭ – Нафтан - Дэвон.**

17-ы тур, 9 верасня (нядзеля): **Ведрыч-97 – Гомель.**

18-ы тур, 16 верасня (нядзеля): **БАТЭ – Лакаматыў-96.**

14-ы тур, 28 ліпеня (субота): **БАТЭ – Гомель.**

19-ы тур, 22 верасня (субота): **Тарпеда-МАЗ – БАТЭ.**

20-ы тур, 30 верасня (нядзеля): **БАТЭ – Белшына.**

21-ы тур, 10 кастрычніка (серада): **БАТЭ – Славія.**

22-і тур, 18 кастрычніка (чацвер): **Нёман-Белкард – БАТЭ.**

23-і тур, 22 кастрычніка (панядзелак): **БАТЭ – Днепр - Трансмаш.**

24-ы тур, 26 кастрычніка (пятніца): **Маладзечна – БАТЭ.**

25-ы тур, 3 лістапада (субота): **БАТЭ – Шахцёр.**

26-ы тур, 7 лістапада (серада): **Дынама Мн – БАТЭ.**

# Футбольны беларускамоўны сайт

Барысаўскі заўзятар футбола Сяргей Аніскевіч і эмігрант з Беларусі Эд Солшэр утварылі ў інтэрнэце сайт беларускага футбола. Уся інфармацыя на ім прыводзіцца выключна па-беларуску.

Такім чынам, ёсць усе падставы меркаваць, што гэта першы сайт аб беларускім футболе на роднай мове. Наведвальнікамі футбольных навінаў стануць выхадцы з нашай краіны, якія пражываюць у ЗША, Аўстраліі, Канадзе і ў іншых краінах.

Адрас сайта: **www.football-belarus.com**.

*С.Чарнуха*

# 3 гаспадарчага дзённіка Ганны Цюндзявіцкай

*Шаноўны чытач. У першых нумарах нашай газеты друкаваліся гаспадарчыя парады пад рубрыкай "3 гаспадарчага дзённіка Ганны Цюндзявіцкай". Будзе разумна, калі гэтая справа будзе працягвацца не толькі па прычыне карысці парад, але і таму, што аўтарка іх набывала свой гаспадарчы вопыт на Барысаўшчыне XIX ст.*

## Як захаваць скуру на руках мяккай і далікатнай

Маладыя паненкі павінны дзень і ноч насіць пальчаткі ці пульсэткі, інакш рукі іх ніколі не будуць белымі і далікатнымі. Шмат якія мацеры лічаць, што пальчаткі, асабліва на кончыках пальцаў, мусяць быць цеснымі.

Аднак урачы справядліва зазначаюць: перашкоджанне раўнамернаму кровазвароту ў любой частцы цела сапраўды пагібельна для здароўя, асабліва ў маладым узросце. Таму лепш, каб кожная маці пакінула прыродзе фарміраванне частак цела дзяцей, а свае клопаты звярнула на догляд за імі і іх удасканаленне.

*Перадаў М.Пучыла*



## Прыватныя абвесткі

### Прадам

- Да ВАЗ-2101: брызгавікі з ланжэронамі, панэль пярэднюю, накладкі дзвярэй, калёсныя аркі. Усё новае. Тэл. 4-23-69.

### Патрабуюцца

- Швачкі і закройшчыкі, т. 5-54-33

### Запрашаюцца

- Лядзішчанскі гарнізонны дом афіцэраў запрашае на гурткі: бальных танцаў, музычнага аддзялення фартэпіяна, т. 3-82-21

### Несапраўднасць

- Атэстат на імя Уладзімірэнка В.М. лічыць несапраўдным у сувязі з яго стратай



**ТОМАН БАРЫСАЎШЧЫНЫ**

**Купон для бясплатных прыватных абвестак**

Рубрыка (куплю, прадам ці інш.) ____________________

Тэкст ____________________

____________________

____________________

____________________

Тэлефон __________ Прозвішча __________

Адрас ____________________

*Аб'явы без тэлефона і ўказання пашпартных дадзеных не прымаюцца*

*Купон дасылайце на адрас:* ***222120, а/я 43, Барысаў-1***

# Крыжаванка

## *складзена па матэрыялах гэтага нумара*

**Па гарызанталі:** 1 – сучасная назва праспекта імя графа Трубяцкога ў Барысаве; 2 – кінатэатр у Барысаве; 3 – вёска на Барысаўшчыне; 4 - вёска на Барысаўшчыне; 5 – паўабаронца футбольнага клуба БАТЭ; 6 – брамнік футбольнага клуба БАТЭ; 7 – возера на Барысаўшчыне; 8 - паўабаронца футбольнага клуба БАТЭ; 9 - паўабаронцы футбольнага клуба БАТЭ; 10 – вёска на Барысаўшчыне; 11 – тутэйшы футбольны клуб; 12 – вёска на Барысаўшчыне; 13 – абаронца футбольнага клуба БАТЭ.




**Адказы на крыжаванку**, што змешчана ў "ГБ" № 6(27): 1 - Мётча; 2 - Відарыс; 3 - Старабарысаў; 4 - Мсціж; 5 - Берагіня; 6 - Сха; 7 - Грыгораў; 8 - Жыўноў; 9 - Лошніца; 10 – Забашавічы; 11 – Студзёнка; 12 – Дудзінка.




"Помнік" трактару ў вёсцы Беліна

# Ці ведаеце вы, што...

Па стану на **1910** год у Барысаве было **75** фурманаў. Сярод іх:

**15** – паракконных;

**30** – аднаконных;

**30** – ламавых.

# Лічбавая крыжаванка

Ніжэй прыведзены пералікі лічбаў, якія згрупіраваны па іх колькасці. Вам неабходна падабраць і запісаць у незафарбаваныя радкі і слупкі лічбы такім чынам, каб супалі іх усе перасячэнні.

**9:** 10584665; 43378902; 47562158; 58891507.

**7:** 1576341; 2189522; 2477901; 2710527; 4838673; 5174511; 5189901; 5597361; 6518783; 7172532; 7643215; 7698034.

**5:** 11282; 21579; 26378; 45978; 56272; 62589; 64581; 87153; 87564; 87748; 94216; 95770.

**3:** 102; 153; 391; 549; 567; 586; 590; 686; 715; 845; 987.

**2**: 25; 49; 76; 94.




# Японская крыжаванка

У японскай крыжаванцы неабходна адгадаць не словы ці размяшчэнне лічбаў, а выяву. Лічбы паказваюць, колькі груп чорных клетак знаходзяцца ў адпаведным радку або слупку і колькі суседніх чорных клетак утрымлівае кожная група. Групы падзелены паміж сабою не менш чым адной пустой клеткай. Пустыя клеткі могуць быць і па краях поля.



**Адказы на японскую і лічбавую крыжаванкі, што былі змешчаны ў "ГБ" № 6(27)**





# Конкурс для заўзятараў футбола

По выніках трох тураў лідэрамі з'яўляюцца:

**Віктар Бойка** – 10 ачкоў;
**Ігар Балаболаў** (Вікінг) – 9 ачкоў;
**Сяргей Корсук** (С.К.Н) – 9 ачкоў;
**Сяргей Корсук** (С.К.) – 9 ачкоў;
**Мікалай Камінскі** (А) – 9 ачкоў;
**Аляксандр Яфіменка** (ТОЭ-3) – 7 ачкоў;
**Сяргей Анісіевіч** (ФК "Паліміз") – 7 ачкоў;
**Сяргей Пыжык** (Жыве Беларусь) – 7 ачкоў.

Нагадваем, што ў конкурсе можа прыняць удзел любы тутэйшы футбольны заўзятар. Падключыцца да яго можна ў любы час. Аднак, чым пазней вы пачынаеце, тым складаней будзе вам яго выйграць.

Для ўдзелу ў конкурсе неабходна выразаць картку яго ўдзельніка з бягучага нумара газеты, запоўніць яе і даслаць ва ўказаны тэрмін на адрас газеты **(222120, Барысаў-1, а/с 43)**. Тэрмін будзе вызначацца па паштоваму штэмпелю.

Калі вы лічыце, што пераможа першая каманда, у полі для адказу ўказваецца лічба "1". Калі, на ваш погляд, пераможа другая каманда – указваецца "2", калі нічыя – "Х". За кожны правільны адказ удзельніку конкурсу будзе нададзена па аднаму ачку. На картцы насупраць кожнага матча можа быць указаны толькі адзін вынік. Ад аднаго ўдзельніка могуць дасылацца некалькі картак з рознымі варыянтамі адказаў, але пры гэтым кожная з іх абавязкова павінна мець сваю ўмоўную назву. Для кожнай умоўнай назвы балы будуць падлічвацца асобна. Пры гэтым ігрок будзе выступаць як некалькі суб'ектаў конкурсу, кожны з якіх мае асабістую назву і мае шанец атрымаць прыз. Перамогуць тыя, хто за ўвесь час правядзення конкурсу – да кастрычніка 2001 года ўключна набярэ большую колькасць балаў.

**Пераможцаў конкурсу чакаюць узнагароды.**

У чацвёртым туры канкурсу неабходна спрагназаваць вынікі гульняў першынства Беларусі па футболу, якія адбудуцца 4 жніўня. Тэрмін падачы картак 3 жніўня.

Жадаем поспехаў!

## Картка ўдзельніка конкурсу

Чацвёрты тур

Лакаматыў-96 - Славія ___
Ведрыч-97 - Тарпеда МАЗ ___
Нафтан-Дэвон - Белшына ___
Дынама (Бр) – БАТЭ ___
Гомель - Нёман-Белкард ___
Дынама (Мн) – Днепр-Трансмаш ___
Шахцёр - Маладзечна ___
Імя ___
Прозвішча ___
Умоўная назва ___
(указваць абавязкова, калі высылаецца некалькі варыянтаў адказаў ад аднаго чалавека)
Адрас ___
Тэлефон ___


ГОМАН БАРЫСАЎШЧЫНЫ

Рэгістрацыйны нумар 595

Заснавальнікі: І.Белы, У.Буйко, У.Дубаневіч, М.Мацельскі, М.Пучыла.

Рэдактар М.Мацельскі

Юрыдычны адрас рэдакцыі: г. Барысаў, 1-ы зав. К.Лібкнехта, 1

Наклад 3000 паасобнікаў

Падпісана ў друк 14.15 24.07.2001 г.
Замова № 4720
Друкарня імя 1-га Мая
г. Барысаў, вул. Будаўнікоў, 33
e-mail: gomanbar@irex.minsk.by


*Адрас для пісьмаў: 222120, Барысаў-1, а/с 43*